● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

31 студзеня 1998 г. субота, № 23 (23374)



# ЗВЯЗДА

КРЫМІНАЛ

## У МІНСКУ ЗНОЎ ЗАХОПЛЕНЫ ЗАЛОЖНІК, А Ў РАЎБІЧАХ АБРАБАВАНЫ КІРАЎНІК КАМАНДЫ БІЯТЛАНІСТАЎ ЧЭХІІ

**Учора наша газета паведамляла аб тым, як трое жыхароў Украіны былі затрыманы праваахоўнымі органамі за тое, што ўтрымлівалі каля сутак заложніка.**

У гэты ж дзень рэдакцыя атрымала інфармацыю аб тым, што ў Беларусі абясшкоджана злачынная група, члены якой з'яўляюцца грамадзянамі Арменіі. Як удалося ўстанавіць, пражывалі армяне ў сталіцы рэспублікі без рэгістрацыі і прапіскі. Аднак затрыманы яны былі таму, што ўтрымлівалі заложніка, мяркуючы па прозвішчу, свайго ж суграмадзяніна. За жыццё заложніка злачынцы патрабавалі выкуп у памеры 100 тысяч долараў. На шчасце, своечасова ўмяшалася міліцыя, а аперацыя была праведзена прафесійна, і заложнік быў вызвалены.

Не абышлося без «казусаў» і на чэмпіянаце Еўропы па біятлону, які зараз праходзіць у Беларусі. Пацярпеў кіраўнік каманды біятланістаў Чэхіі, да якога ў нумар забралася жанчына: ёй удалося падабраць ключ да замка. Пакорпаўшыся ў пакоях іншаземца, злачынка забрала з сабой 390 долараў ЗША. Праўда, знікнуць ёй не ўдалося, яна затрымана. Устаноўлена, што яна пражывае ў адной з вёсак.

**Ігар ГРЫШЫН.**

СКАНДАЛ

## НОВЫЯ ПРЫГОДЫ ВЭЛА ТАБОКА Ў БЕЛАРУСІ

### Амерыканскі грамадзянін падазраецца ў кантрабандзе

У беларуска-амерыканскіх адносінах зноў узнік непрыемны інцыдэнт. 28 студзеня ў Мінску быў затрыманы грамадзянін Злучаных Штатаў Амерыкі Вэл Табок, які прыехаў у нашу краіну па камерцыйных справах.

Гісторыя затрымання спадара Табока пачалася яшчэ ў красавіку мінулага года. Як сведчаць кампетэнтныя органы Беларусі, менавіта тады амерыканскі грамадзянін спрабаваў незаконна вывезці з нашай краіны некалькі старажытных манускрыптаў канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя. Гэтыя выданні на іўрыце маюць вялікую культурную і гістарычную каштоўнасць, таму іх вываз з Беларусі забаронены. Натуральна, манускрыпты былі канфіскаваныя на беларускай мытні, а супраць Вэла Табока была ўзбуджана крымінальная справа за спробу кантрабанднага вывазу каштоўных выданняў. Праўда, няўдачліваму кантрабандысту чамусьці ўдалося без праблем пакінуць Беларусь. Следства доўгі час не магло ўстанавіць месцазнаходжанне спадара Табока, таму ў чэрвені 1997 года крымінальная справа супраць яго была прыпынена.

Але варта было амерыканскаму грамадзяніну сёлета зноў з'явіцца ў Беларусі, як праваахоўныя органы ўспомнілі мінулагоднюю гісторыю і арыштавалі спадара Табока. Крымінальная справа адносна яго была адноўлена.

Зрэшты, як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Цэнтры грамадскіх сувязяў КДБ Беларусі, ужо ўвечары 29 студзеня Вэл Табок быў вызвалены з-пад варты пад паручыцельства пасольства ЗША ў нашай краіне і кіраўнікоў фірмаў, якія запрасілі ў Мінск амерыканскага грамадзяніна. Разам з тым расследаванне крымінальнай справы супраць Вэла Табока працягваецца. Праўда, паведаміць якія-небудзь падрабязнасці аб гэтай справе ў КДБ адмовіліся.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**



**Мішка снегу не баіцца.**
**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

**4 і 5 лютага ў Слуцку і Слуцкім раёне працуе «выязная прыёмная» «Звязды», Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, міністэрстваў сацыяльнай абароны насельніцтва, жыллёва-камунальнай гаспадаркі і аховы здароўя**

«Выязная прыёмная» будзе праводзіцца па наступных адрасах: **4 лютага ў Слуцку — у памяшканні гарадской бібліятэкі і Палаца культуры цукрова-рафінаднага камбіната (з 11 да 15 гадзін). Таксама 4 лютага (але ўжо з 16 да 17.30) — у памяшканнях Грэскага сельскага Савета і ў пакоі прафкама калгаса імя Арджанікідзе ў вёсцы Вясея.** У гэтых жа населеных пунктах — у Грэску і Вясеі — пасля 18 гадзін адбудуцца шырокія сустрэчы з насельніцтвам. Супрацоўнікі «Звязды» і іншыя ўдзельнікі пасяджэння «выязной прыёмнай» гатовыя да прамога дыялога з усімі. 5 лютага мы будзем працаваць у калгасах «Прамень камунізму» (прыём адбудзецца ў памяшканні мясцовага сельскага Савета) і ў калгасе «XVI партз'езд» (у памяшканні Дома механізатара) — з 8 да 10 гадзін раніцы.

Да сустрэчы, да шчырай, зацікаўленай, спадзяёмся, — карыснай размовы!

## ВЫНІКАМІ ВІЗІТУ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ Ў ЮГАСЛАВІЮ ЗАДАВОЛЕНЫ АБОДВА БАКІ

Прыняццем сумеснай беларуска-югаслаўскай заявы 30 студзеня завяршыўся першы афіцыйны візіт прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў Саюзную Рэспубліку Югаславію. Акрамя таго, члены беларускай дэлегацыі падпісалі шэраг міжурадавых пагадненняў. Прычым акрамя запланаваных чатырох пагадненняў — аб паветраных зносінах, аб прадухіленні двайного падаткаабкладання, аб супрацоўніцтве ў галіне ветэрынарыі і ў галіне каранціну і аховы раслін — былі падпісаны яшчэ два важныя дакументы. Гэта мемарандум аб лібералізацыі гандлю паміж Беларуссю і Югаславіяй і пратакол аб узаемных пастаўках тавараў.

Падпісанне дадатковых дакументаў было выклікана неабходнасцю як мага хутчэй пачаць рэалізацыю дамоўленасці прэзідэнтаў дзвюх краін аб павелічэнні ў гэтым годзе тавараабароту паміж Беларуссю і СРЮ ў дзесяць разоў. Дарэчы, падпісаныя пагадненні запатрабуюць унясення пэўных карэкціровак у заканадаўствы абедзвюх славянскіх дзяржаў. Як відаць, парламенты Беларусі і Югаславіі прыкладуць пэўныя намаганні, каб не адкладваць справу на доўгі час. Пасля праведзенай у апошні дзень візіту сустрэчы з кіраўнікамі Скупшчыны (парламента) Югаславіі Срджой Божавічам і Міламірам Мінічам Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў: унясенне паправак у законы варта таго, яны дапамогуць давесці тавараабарот паміж дзвюма дзяржавамі да 100 мільёнаў долараў, а ў наступным годзе павялічыць гэты паказчык яшчэ ўдвая.

Перагаворы з кіраўнікамі югаслаўскага парламента адбыліся ў такой жа дружалюбнай абстаноўцы, як і завяршальная сустрэча прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з прэзідэнтам Саюзнай Рэспублікі Югаславіі Слабаданам Мілошавічам. Перад афіцыйнай цырымоніяй провадаў Аляксандр Лукашэнка сказаў, што ён задаволены вынікамі візіту. А Слабадан Мілошавіч заявіў, што вынікі візіту беларускага прэзідэнта ў Югаславію пераўзышлі ўсе спадзяванні.

30 студзеня прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка вярнуўся з Бялграда ў Мінск.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## МІЖНАРОДНАЯ ФІНАНСАВАЯ КАРПАРАЦЫЯ І БЕЛАРУСЬ МАЮЦЬ НАМЕР ПАШЫРАЦЬ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Шляхі далейшага пашырэння супрацоўніцтва Беларусі з Міжнароднай фінансавай карпарацыяй былі разгледжаны 29 студзеня ў час сустрэчы прэм'ер-міністра нашай краіны Сяргея Лінга з дэлегацыяй МФК, якую ўзначаліў дырэктар яе Еўрапейскага дэпартамента пан Эдвард Насім.

Крыху больш чым пяць гадоў таму наша рэспубліка стала першым членам карпарацыі з ліку былых рэспублік СССР.

У час сустрэчы кіраўнік урада выказаў падзяку гэтай арганізацыі за падтрымку, якая аказваецца ёю нашай рэспубліцы ў перыяд рэфарміравання эканомікі. «Мы задаволеныя вынікамі сумеснай работы, асабліва ў сферы малой прыватызацыі», — падкрэсліў Сяргей Лінг.

На сённяшні дзень з дапамогай кансультантаў МФК праведзена звыш 200 аўкцыёнаў, на якіх прададзена 480 аб'ектаў. 550 прадпрыемстваў камунальнай сферы змянілі форму ўласнасці.

Аднак, нягледзячы на важнасць гэтай работы, на думку пана Эдварда Насіма, трэба шукаць і іншыя шляхі ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва. «Нам вельмі хацелася б працягваць аказанне дапамогі, асабліва ў справе далейшага развіцця прыватнага прадпрымальніцтва ў вашай краіне», — адзначыў ён.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## ДЭКЛАРАЦЫЯ АБ СУКУПНЫМ ДАХОДЗЕ: БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ...

У Канстытуцыйны суд рэспублікі паступаюць звароты грамадзян і арганізацый з просьбамі разгледзець пытанне аб адпаведнасці Асноўнаму Закону краіны асобных палажэнняў метадычных указанняў Дзяржаўнага падатковага камітэта аб парадку прымянення Закона «Аб падаходным падатку з грамадзян». Як вядома, гэты нарматыўны акт устанаўлівае новы парадак вылічэння падаходнага падатку, зыходзячы з сукупнага даходу.

У сувязі з узнікшай сітуацыяй прэсцэнтр КС распаўсюдзіў паведамленне, у якім гаворыцца, што ў адпаведнасці з артыкулам 116 Канстытуцыі і Законам «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь» ён дае заключэнні аб канстытуцыйнасці нарматыўных актаў толькі па прапанове ўпаўнаважаных на тое суб'ектаў і не мае права заводзіць справу па сваёй ініцыятыве.

Аднак на падставе артыкула 40 Асноўнага Закона краіны ўсе звароты грамадзян і арганізацый вывучаны КС, і ва ўрад накіравана прапанова аб пераглядзе метадычных указанняў з мэтай прывядзення іх у адпаведнасць з законамі аб падаткаабкладанні і Указам прэзідэнта краіны «Аб упарадкаванні спагнання фіксаваных сум падатку на прыбытак і цвёрдых сум падаходнага падатку».

Канстытуцыйны суд тлумачыць, што ў гэтым выпадку ў адносінах да актаў Дзяржаўнага падатковага камітэта прыняць абавязковае рашэнне мае права толькі ўрад Беларусі.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

БІЯТЛОН: ЧЭМПІЯНАТ ЕЎРОПЫ




## ПЕРАКАВАЦЬ БЫ СРЭБРА Ў ЗОЛАТА!

Учарашні дзень чэмпіянату Еўропы па біятлону, які праходзіць у Раўбічах, стаў для беларускіх «страляючых лыжнікаў» самай сапраўднай палкай з двума канцамі: з аднаго боку наша каманда закінула ў сваю скарбонку два сярэбраныя медалі, а з другога — да «золата» ж было рукой падаць...

Надвор'е і на самай справе здзекуецца над арганізатарамі спаборніцтваў. Напярэдадні чэмпіянату літаральна па сняжынцы збіралі па лесе снег і мяшкамі цягалі яго на лыжную трасу, і вось, наце вам, панове, атрымайце — пачаліся спаборніцтвы, і нябесная канцылярыя разбушавалася, не шкадуючы снежнага «дабра» на галовы ўдзельнікаў еўрапейскага першынства. Так было і ўчора, што, безумоўна, не магло не адбіцца на выніках стральбы спартсменаў — чаго варты хаця б той факт, што пераможца папярэдняй гонкі на 20 км расіянін Сяргей Ражкоў на гэты раз аж 4 разы выстраліў «у малако». Зрэшты, аб усім па парадку.



Першымі на спрынтэрскую гонку на 10 км выйшлі мужчыны. Наш Вадзім Сашурын вырашыў прапусціць яе, а з беларускай каманды стартавалі Аляксей Айдараў, Алег Рыжанкоў, Пётр Івашка і Аляксандр Папоў. Апошні, дарэчы, адразу ж і «павёў» сапернікаў за сабой, а яго час амаль да апошніх фінішуючых біятланістаў займаў першы радок у табліцы. Усё было добра, пакуль на фінішную прамую, бы той чорт з табакеркі, не выскачыў латвійскі спартсмен Якабс Накумс, які ў рэшце рэшт і абышоў Аляксандра Папова на «д'ябальскіх» 13 секунд, заваяваўшы залаты медаль.



Нешта падобнае здарылася і з беларускай Наталляй Пермяковай у спрынтэрскай гонцы на 7,5 км. Доўгі час займаўшую першы радок Наталлю «пакарала» скорасная расіянка Надзея Таланава (дарэчы, гэта ўжо другі яе залаты медаль на гэтым чэмпіянаце), абышоўшы беларуску ўсяго на нейкіх 4,7 секунды. Наталлі ж Пермяковай давялося суцешыцца «серабром». (На здымках — нашы сярэбраныя прызёры.) Можа сёння на гонцы праследавання перападзе што-небудзь больш каштоўнае.

Астатнія вынікі ўчарашняга дня спаборніцтваў:

**Спрынт**
**Мужчыны, 10 км.**
1. Якабс Накумс (Латвія)
2. Аляксандр ПАПОЎ (Беларусь)
3. Ілмас Брыціс (Латвія)
...8. Аляксей АЙДАРАЎ (Беларусь)
...13. Алег РЫЖАНКОЎ (Беларусь)
...21. Пётр ІВАШКА (Беларусь)

**Спрынт**
**Юніёры, 10 км**
1. Андрэй Пракунін (Расія)
2. Яні Хакінен (Фінляндыя)
3. Даніла Кадэла (Славенія)
Беларусаў у шасцёрцы мацнейшых няма.

**Спрынт**
**Жанчыны, 7,5 км**
1. Надзея Таланава (Расія)
2. Наталля ПЕРМЯКОВА (Беларусь)
3. Пэгі Вагенфюр (Германія)
...21. Людміла ЛЫСЕНКА (Беларусь)
...22. Святлана БЯЛАН (Беларусь)
...40. Наталля СЛОНКІНА (Беларусь)

**Спрынт**
**Юніёркі, 7,5 км**
1. Гро Марыт Істад (Нарвегія)
2. Магдалена Гвіздон (Польша)
3. Ленка Фалтусава (Чэхія)
...20. Кацярына ГРЫГОР'ЕВА (Беларусь)
...21. Наталля МЫЛЬНІКАВА (Беларусь)
...22. Святлана ДЗІРКО (Беларусь)

**Алесь СІВЫ.**




Яўген ПЯСЕЦКІ

Божа дасць — дажывем
і убачым, як сцюжа сканае,
Як валошка прачнецца
ад палону зімовай маны,
І адлётная птаха
ў вершалінах ізноў заспявае,
І карэнне натоліць
з гаючай святой глыбіні.

А як Божа не дасць,
як буран панявечыць галіны,
І знямоглыя дрэвы
ніцма ў саван завей упадуць —
Вам за нас дачакаць
залацістай і яснай часіны,
Вам за нас даспяваць
тыя песні, што ў буру не чуць.



## Небяспечная служба прадугледжвае льготы

***Пасля прызыву на тэрміновую службу я 2 гады і 2 месяцы (снежань 1961 г. — люты 1964 г.) служыў у в/ч 01533 на Сяміпалацінскім палігоне. Ці прыраўноўваюцца вайскоўцы, якія служылі ў гэтым рэгіёне і звольненыя ў запас, да ліквідатараў чарнобыльскай катастрофы? Калі так, то якімі льготамі яны могуць карыстацца? Якія дакументы патрэбны і куды трэба звяртацца? Звяртаўся ў Бабруйскі райваенкамат, але адказу не атрымаў. Сам хварэю і ў сям'і сын-інвалід першай групы з дзяцінства. Прашу дапамагчы.***

**Васіль МЕЛЬНІЧОНАК**, в. Ламбова Бабруйскага раёна.

Ва ўпраўленні па справах ваеннаслужачых Міністэрства сацыяльнай абароны нам паведамілі, што, мяркуючы па нумару вайсковай часці, дзе некалі служыў чытач, ён можа быць прыраўнаваны не да ліквідатараў, а да пацярпелага насельніцтва.

Пры пацвярджэнні факта службы на Сяміпалацінскім палігоне спадар Мельнічонак будзе мець права на льготы згодна з часткай 4 арт. 24 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых ад катастрофы на ЧАЭС».

Гэта, у прыватнасці, першачарговае набыццё зямельных участкаў і матэрыялаў для індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва, нечарговае набыццё жылых дамоў у прыватную ўласнасць, нечарговае прадастаўленне месцаў у дзіцячых дашкольных установах незалежна ад іх ведамаснага падпарадкавання, нечарговае ўступленне ў кааператывы для будаўніцтва гаражоў і стаянак і інш. Каб атрымаць даведку аб праве на льготы, чытачу патрэбна праз свой ваенкамат зрабіць запыт аб пацвярджэнні факта службы на палігоне (запаўняецца спецыяльная анкета). Як паведамілі ў міністэрстве, у ваенкамаце павінна быць дырэктыва Генеральнага штаба расійскіх Узброеных Сіл, згодна з якой анкета накіроўваецца на праверку. Пасля атрымання чытачом даведкі ўсё астатняе павінны зрабіць мясцовыя органы сацыяльнай абароны.

## Субсідыю дадуць, але не ў поўным аб'ёме

***Жыву ў доме сваёй маці, якая падаравала мне частку дома (20 кв. метраў). У гарсавеце стаю ў чарзе на жыллё з 1980 года. Зараз будую ўласны дом. Ці маю я права на атрыманне аднаразовай бязвыплатнай субсідыі?***

**Алена КУЗНЯКОВА**, г. Масты.

На гэта пытанне рэдакцыя атрымала адказ у міністэрстве архітэктуры і будаўніцтва. Па словах намесніка міністра Аляксандра Сідарэнкі, субсідыі выдзяляюцца на будаўніцтва ці куплю жылых памяшканняў, у тым ліку і індывідуальных. Пры наяўнасці ў грамадзяніна, які мае намер атрымаць субсідыю, або члена яго сям'і ва ўласнасці прыватызаванага жыллёвага памяшкання, нарматыў агульнай плошчы жылля пры ўстанаўленні сумы базавай долі субсідыі памяншаецца на памер агульнай плошчы прыватызаванага жыллёвага памяшкання.

## З астмай садзіцца за руль небяспечна

***Мой муж хварэе на бранхіяльную астму. У нас ёсць матацыкл. Калі муж праходзіў медкамісію, галоўны ўрач не падпісаў яму картку, маўляў, прастудзішся, будзе яшчэ горш з астмай. Прайшоў год. Мы вырашылі прадаць матацыкл і купіць «Запарожац». Але на медкамісіі сітуацыя паўтарылася — галоўны ўрач патлумачыў, што муж не можа мець правы, бо ў дарозе можа нечакана пачацца прыступ хваробы. Ці можа мой муж кіраваць машынай? Групу яму не даюць. Прыступы ён адчувае загадзя і здымае іх аэразолем. «Хуткую дапамогу» яшчэ ні разу не выклікалі...***

**С. БРАГІНСКАЯ**, г. Ліда.

У Міністэрстве аховы здароўя РБ на гэтае пытанне паведамілі літаральна наступнае. У адпаведнасці з п. 27 дадатку 2 да загада Міністэрства аховы здароўя № 58 ад 6.04.1993 г. «Аб удасканаленні сістэмы медыцынскіх аглядаў вадзіцеляў і кандыдатаў у вадзіцелі аўтатранспартных сродкаў», пытанне аб допуску хворага, які пакутуе ад бранхіяльнай астмы, да кіравання матацыклам і легкавым аўтамабілем вырашаецца медыцынскімі вадзіцельскімі камісіямі ў кожным канкрэтным выпадку індывідуальна ў залежнасці ад цяжкасці дадзенага захворвання, частаты прыступаў і ступені парушэння функцый органаў дыхання. Іншымі словамі, паважаная чытачка, галоўны ўрач, напэўна, меў рацыю, калі адмовіўся падпісаць картку вашаму мужу. Пагадзіцеся, адна справа — змагацца з хваробай у хатніх умовах, і зусім іншая — за рулём на дарозе, дзе ніхто не можа гарантаваць якой-небудзь экстрэмальнай сітуацыі. У рэшце рэшт, гаворка ідзе пра бяспеку як для вашага мужа, так, магчыма, і для іншых людзей.

## У басейн дзяўчынка будзе ездзіць са скідкай

***Ці мае права на нейкія льготы дзесяцігадовая дзяўчынка-школьніца пры карыстанні прыгарадным аўтобусам, калі яна едзе не проста ў горад, а на заняткі ў басейн? Даведкі са школы і басейна ёсць, я звярталася на аўтастанцыю, але дакладнага адказу не атрымала. Тры разы на тыдзень аплачваць дарогу туды—назад накладна для майго сямейнага бюджэту, бо я адна выхоўваю дачку, муж загінуў, а жывём мы ў інтэрнаце саўгаса.***

**Ніна СТРЭЛЬЧЫК**, в. Сёмкава Мінскага раёна.

Каб дапамагчы жанчыне, мы звярнуліся ва ўпраўленне аўтамабільнага транспарту Міністэрства транспарту і камунікацый. Там, дарэчы, выказалі здзіўленне тым, што работнікі аўтастанцыі не здолелі прадаставіць вам патрэбную інфармацыю. Дык вось, навучэнцы агульнаадукацыйных школ маюць права на 50-працэнтную скідку пры аплаце праезду ў прыгарадным аўтатранспарце (як, дарэчы, і ў гарадскім — праз набыццё льготных талончыкаў) на працягу ўсяго года. У перыяд зімовых канікулаў (з 1 студзеня па 28-29 лютага) яны маюць такую ж скідку пры карыстанні міжгароднім транспартам. Гэта, заўважым, калі школьніку споўнілася больш як 10 гадоў (калі менш, скідкай у міжгароднім транспарце можна карыстацца на працягу ўсяго года, да 7 гадоў праезд у гарадскім і прыгарадным транспарце наогул бясплатны).

Ваша дачка можа і павінна ездзіць у басейн са скідкай. Для гэтага дастаткова мець толькі даведку са школы аб тым, што яна з'яўляецца вучаніцай. Гэтая і пералічаныя вышэй ільготы на карыстанне транспартам вучням агульнаадукацыйных школ прадастаўляюцца згодна з Указам прэзідэнта № 349 ад 01.09.95 «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян».

## Плаціць трэба ў залежнасці ад маршрута

***Я інвалід Вялікай Айчыннай вайны, мне 79 гадоў. У межах вобласці я заўсёды ездзіў бясплатна — і ў аўтобусах, і ў электрычках. Чаму тады, калі я ехаў з аўтавакзала «Усходні» ў санаторый «Рассвет» Любанскага раёна, касірка ўзяла з мяне за білет плату ў памеры 50 працэнтаў — 44 тысячы рублёў. Білет у мяне захаваўся, калі гэта незаконна — няхай вернуць грошы.***

**П. БЯССОНАЎ.**

На жаль, чытач не паведаміў свайго хатняга адраса, а ўказаў толькі каардынаты санаторыя. Але, мяркуючы па тым, што дабіраўся ён туды з аўтавакзала «Усходні», гэта, хутчэй за ўсё, быў міжгародні маршрут.

— Па заканадаўству інваліды вайны маюць права на 50-працэнтную скідку пры карыстанні міжгароднім транспартам, у тым ліку і аўтамабільным, — адказалі нам у міністэрстве сацыяльнай абароны. — Калі б чытач ехаў прыгарадным маршрутам, сапраўды, праезд ён бы не аплачваў, аднак, калі гэта быў усё ж міжгародні аўтобус, касірка зрабіла правільна, узяўшы грошы за білет з 50-працэнтнай скідкай.

## Дапамогі мнагадзетным сем'ям не ўсюды аднолькавыя

***Паважаная «Звязда», нам стала вядома, што ў Івацэвіцкім раёне Брэсцкай вобласці мнагадзетным сем'ям выдаюць талоны для набыцця бясплатных прадуктаў і садавіны. Кажуць, што ў Мінску таксама ёсць такія талоны. У сувязі з гэтым хацелася б даведацца, чаму мы ў сваім раёне не карыстаемся падобнымі льготамі?***

**А. ЛЕПЯЦІЛА**, Нясвіжскі раён.

Як растлумачылі ў Міністэрстве сацыяльнай абароны РБ, акрамя агульных ільгот, якія распаўсюджваюцца на мнагадзетныя сем'і на тэрыторыі ўсёй краіны, мясцовыя ўлады таксама могуць аказваць дапамогу сем'ям, якія выхоўваюць 3 і больш дзяцей. Прычым само паняцце «мнагадзетная сям'я» ў розных рэгіёнах трактуецца па-рознаму, паколькі ў Кодэксе аб шлюбе і сям'і, які дзейнічае ў рэспубліцы на сённяшні дзень, дакладна не вызначана, сям'я з якой колькасцю дзяцей лічыцца мнагадзетнай. Такім чынам, не здзіўляйцеся, калі нават вашы суседзі па вобласці атрымліваюць, скажам, талоны на бясплатныя прадукты, а вы — не. Цэлы шэраг дадатковых ільгот прадастаўляюць мясцовыя ўлады.

## Дата нараджэння цяпер вядома дакладна

***Я нарадзілася ў 1948 годзе. Набліжаецца паўвекавы юбілей, але вось дакладнай даты свайго нараджэння я не ведаю. Па словах маці, гэта было рэлігійнае свята Узнясенне, якое святкуецца ў чацвер, на шостым тыдні пасля Вялікадня. Калі можна, дапамажыце даведацца, на якія дні прыпадалі ў 1948 годзе Узнясенне і Вялікдзень.***

**Валянціна ТРАФІМОВІЧ**, г. Салігорск.

Адказаць на пытанне нашай чытачкі дапамог загадчык бібліятэкі Мінскага епархіяльнага ўпраўлення Яўген Сізоненка. Так, згодна з надрукаваным у «Літоўскіх епархіальных ведамасцях» за 1888 год «Поўным велікодным кругам», у 1948 годзе свята Узнясення прыпадала па старому стылю на 28 мая. Значыць, каб дакладна вылічыць дзень уласнага нараджэння, чытачцы трэба дадаць да гэтай даты лічбу 13. А Вялікдзень у гэтым жа годзе, зноў жа па старому стылю, адзначаўся 19 красавіка.

Дарэчы, як заўважыў загадчык бібліятэкі Епархіяльнага ўпраўлення, падобныя пытанні цікавяць многіх людзей, таму, са згоды Яўгена Іванавіча, мы друкуем тэлефон, па якім, магчыма, дапамогуць і іншым нашым чытачам: 226-97-97.

## На новым месцы зноў у агульную чаргу?

***Дарагая рэдакцыя, дапамажыце разабрацца ў маёй сітуацыі. Пры пераездзе на новае месца жыхарства я разлічыўся за карыстанне тэлефонам і здаў яго нумар. Зразумела, пасля перасялення ў мікрараён папрасіў, каб мне адразу ўстанавілі тэлефонны апарат, але мне адмовілі, спасылаючыся на тое, што тут няма АТС. Калі ж яе пабудавалі, здалі ў эксплуатацыю і пачалі ажыццяўляць тэлефанізацыю, маю просьбу таксама не выканалі: абгрунтавалі тым, што ўстанаўліваюць тэлефоны толькі асобам, якія стаяць у чарзе да 1994 года, і перш-наперш ільготнікам. Але ж у той час у мяне ўжо быў тэлефон, хоць, праўда, і ў іншым месцы. Аднак раённы вузел сувязі на гэта ніяк не адрэагаваў. Адкажыце, калі ласка, як мне цяпер быць? Няўжо зноў трэба станавіцца ў агульную чаргу?***

**А. МАЛЬЦЭВІЧ**, г. Ліда.

Гэта няпростае пытанне хвалюе і іншых нашых чытачоў. Адказаць на яго рэдакцыя папрасіла намесніка начальніка ўпраўлення электрасувязі Міністэрства сувязі Валянціну Асіпенка.

— Паслуга «перанос тэлефона па новаму адрасу», а больш дакладна — установка яго валомy абаненту, з'яўляецца дадатковай, і льгот па яе аказанню заканадаўствам нікому не прадугледжана. У адпаведнасці з дзеючымі правіламі А. Мальцэвічу ў дадзеным выпадку застаецца толькі адно — стаць у агульную чаргу. Пры яе падыходзе ён будзе мець такую льготу — за ўстаноўку тэлефона заплаціць усяго 20 працэнтаў ад устаноўленай сумы.

— Але ж атрымліваецца неяк несправядліва: меў чалавек тэлефон і застаўся ні з чым, трэба пачынаць з нуля. Так?

— У нейкай ступені, на жаль, так. Але калі кожнага такога навасельца мы адразу забяспечым тэлефоннай сувяззю, дык пры цяперашняй вялікай тэхнічнай абмежаванасці яе моцна пакрыўдзім тых, хто стаіць у чарзе 10—15 і больш гадоў. А перш за ўсё — інвалідаў, ветэранаў вайны і працы, пенсіянераў, большасці з якіх тэлефоны патрэбны як паветра.

Кожны год на АТС рэспублікі ўводзіцца амаль 200 тысяч новых нумароў. У той жа час на атрыманне іх у чарзе стаіць 600 тысяч чалавек — у тры разы больш. І, як ні прыкра, гэты спіс не змяншаецца. Прычына ў асноўным адна — на сённяшні дзень няма матэрыяльна-фінансавай магчымасці кожнаму жадаючаму паставіць у кватэры тэлефон.

## За вываз смецця сёння неабходна плаціць асобна

***Ці правільна робяць спецыялісты мінскага ЖЭС-68, калі патрабуюць асобнай аплаты за вываз смецця? Раней гэты від паслуг уваходзіў у штомесячную суму, якую мы ўносілі за тэхнічнае абслугоўванне кватэры.***

**В. УРБАН**, г. Мінск.

Як растлумачылі «Звяздзе» ў Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі, аплата за вываз смецця выведзена з саставу выдаткаў на эксплуатацыю жыллёвага фонду. Цяпер за гэты від паслуг неабходна ўносіць грошы асобна. Прычым гэтае правіла датычыцца як наймальнікаў, так і ўладальнікаў прыватызаваных кватэр. Проста змяніўся парадак аплаты.

*Спажывец*

# ЯК ВЫБРАЦЬ СВАЙМУ ДЗІЦЯЦІ ЦАЦКУ І НЕ ХВАЛЯВАЦЦА ЗА ЯГО ЗДАРОЎЕ?

**Як паведамілі замежныя сродкі масавай інфармацыі, напярэдадні Новага года жыхары Сіднея, Мельбурна і іншых гарадоў Аўстраліі назіралі ў магазінах незвычайную карціну: Санта Клаусамі з іх прылаўкаў забіраліся цацкі, вырабленыя з мяккай пластмасы. Але, заўважым адразу, што да помсты непаслухмяным дзецям дзеянні калядных чараўнікоў аднесці ніяк нельга. Справа ў тым, што ў перадсвяточныя дні сваю дзейнасць у Аўстраліі разгарнулі прадстаўнікі міжнароднай экалагічнай арганізацыі «Грынпіс», якія, пераапрануўшыся ў Санта Клаусаў, пратэставалі супраць атручэння дзяцей полівінілхларыдам — хімічным рэчывам, якое выкарыстоўваецца ў вытворчасці пластмасавых цацак. Згодна з даследаваннямі спецыялістаў, полівінілхларыд можа правакаваць у чалавечым арганізме захворванні печані, нырак і страўніка. Менавіта таму ў некаторых еўрапейскіх дзяржавах цацкі, вырабленыя з мяккай пластмасы, былі зняты з вытворчасці. У іншых жа краінах аб небяспецы, якую могуць таіць у сабе дзіцячыя цацкі, многія нават не падазраюць...**

У Беларусі айчынная дзіцячая цацка, перш чым трапляе ў магазін, заўсёды ацэньваецца санітарнай службай на бяспечнасць, а замежныя цацкі ў абавязковым парадку праходзяць сертыфікацыйныя выпрабаванні ў Белстандарце і Міністэрстве аховы здароўя РБ. У лабараторыі, дзе цацка трымае экзамен, яе падвяргаюць як хімічным, так і таксікалагічным даследаванням. Утрымліваючы «дзіцячую мару» ў растворах, якія імітуюць дзіцячую сліну, пот або мачу, спецыялісты назіраюць за тым, як яна сябе паводзіць: ці не раздражняе скуру, ці не выклікае алергічных з'яў, ці ёсць якія-небудзь хімічныя выдзяленні ў навакольнае асяроддзе або ці не раствараюцца яе фарбы і інш.

Паводле слоў загадчыцы лабараторыі гігіены дзяцей і падлеткаў Беларускага навукова-даследчага санітарна-гігіенічнага інстытута Алы Крукавай, сказаць, што сёння пад забарону трапляе шмат дзіцячых цацак, нельга. Як правіла, на сертыфікацыю прыносяць толькі тыя цацкі (або сыравіну для іх), у якасці якіх пастаўшчыкі ўпэўненыя, як кажуць, на ўсе сто. Уся ж астатняя прадукцыя, якая ўвогуле не вытрымлівае ніякай крытыкі, рэалізуецца без сертыфікатаў нелегальна ў «камках». Трэба заўважыць, што з таго часу, калі на беларускім рынку з'явіліся першыя цацкі з Кітая, многае змянілася: калі ў першыя гады яны ўвогуле прадаваліся бескантрольна, то сёння гэтая прадукцыя нарэшце пачала трапляць на сертыфікацыю да спецыялістаў. І хаця яе якасць, бывае, выклікае справядлівыя папрокі, усё ж паток няякаснага тавару з Кітая, трэба канстатаваць, крыху зменшыўся.

Але давайце ўсё ж разбяромся, чым жа можа быць небяспечная дзіцячая цацка? Акрамя полівінілхларыду, аб якім мы ўжо гаварылі, яна можа ўтрымліваць у сабе фармальдэгід, стырол або фенол, якія здароўя дзіцяці не дабаўляюць. Найбольш небяспечныя ў гэтым сэнсе пластызолевыя цацкі. А да экалагічна бяспечных спецыялісты адносяць драўляныя цацкі, калі, зразумела, яны вырабленыя не з забруджанай радыяцыяй драўніны. Лічыцца, што ў адрозненне ад металу ці пластмасы, драўніна вельмі карысная навобмацак, бо вылучае цяпло.

У бразготках, якія малышы цягнуць у рот, выключаецца выкарыстанне паверхневай афарбоўкі. Якасная цацка не павінна пахнуць (непрыемным пахам «грашаць», як правіла пластызолевыя цацкі і цацкі з латэксу).

Варта таксама мець на ўвазе, што небяспечнай можа аказацца для дзіцяці і мяккая цацка, вырабленая з няякаснага футра. Футра (як, дарэчы, і валасы ў лялек) заўсёды правяраецца на пажарабяспечнасць, і толькі ў тым выпадку, калі яно пры запальванні не ўспыхвае, а пачынае плавіцца, яго дазваляюць выкарыстоўваць для вырабу цацкі. Добрымі спажывецкімі якасцямі, як паказвае практыка, валодае футра для цацак жлобінскай фабрыкі, а таксама польскае футра. Напэўна, нялішне нагадаць і бацькам, што дзіцячыя цацкі патрабуюць такога ж догляду, як дзіцячае адзенне і абутак: усё, што можа трапіць дзіцяці ў рот, мыецца кожны дзень у гарачай вадзе або кіпяціцца. Для мыцця цацак можа выкарыстоўвацца гаспадарчае мыла або дзіцячы пральны парашок.

Спытайце ў прадаўца сертыфікат на цацку. Упэўніцеся, што нумар партыі і таварны знак у сертыфікаце і на самой цаццы супадаюць — якасны тавар заўсёды прамаркіраваны. І не забывайце, што ўрачы прыраўноўваюць па ступені рызыкі дзіцячыя цацкі да прадуктаў харчавання!

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

Выпуск пытальніка падрыхтавалі Іван БРАЛКА, Сяргей РАСОЛЬКА, Надзея НІКАЛАЕВА, Сяргей КУРКАЧ, Мікалай ЛІТВІНАЎ.

## ЖАНЧЫНА, МАЦІ, АРТЫСТКА, ПРЭЗІДЭНТ...

Прэзідэнт арт-клуба «Ліка» спадарыня Ялінская збіраецца сумяшчаць паспяховую кар'еру маці з даволі актыўнай дзейнасцю ў «Школе прыгажосці». Ідэя стварыць нацыянальную школу прыгажосці нарадзілася ў Лікі даволі даўно, прынамсі, намнога раней за сына. І падтрымала гэтую ідэю дзяржава ў асобе прэзідэнта. Але пакуль усе неабходныя арганізацыйныя моманты вырашаліся на ўзроўні Міністэрства культуры, саму Ліку паступова і непрыкметна адцяснілі ад спраў. Школа прыгажосці адкрылася пад дахам харэаграфічнага вучылішча. «Тое, што ўжо існуе пад маім імем не мае ніякіх адносінаў да яго», — сказала Ліка на прэс-канферэнцыі з нагоды адкрыцця яшчэ адной школы прыгажосці, цяпер ужо пры арт-клубе «Ліка».

Уласна кажучы, альтэрнатыўная «Школа прыгажосці» Лікі Ялінскай заснавана на тых прынцыпах, што задумваліся першапачаткова: па-першае, гэта лавінна быць месца, куды зможа прыйсці любая жанчына, нават без асаблівых даных, але з жаданнем навучыцца быць прыгожай знешне і ўнутрана, па-другое, пры школе будзе фарміравацца «залаты фонд» з дзяўчат, якія будуць рыхтавацца для вялікіх дасягненняў у розных конкурсах прыгажосці, у тым ліку міжнародных. Будзе створана група для маленькіх, куды сама Ліка і яе аднадумцы з задавальненнем аддалі б лавучыцца сваіх дзяцей, калі яны пройдуць конкурсны адбор. Дарэчы, набор на першы курс (а праграма разлічана на тры месяцы) пачнецца з 1 красавіка. «Каманда» арганізатараў, выкладчыкаў і духоўных натхняльнікаў школы ўжо існуе і чакае зацікаўленых жанчын, мужчын, дзяўчынак і хлопчыкаў. Ад колькасці пададзеных заявак будзе ўжо залежаць аплата курса. Дарэчы, сама спадарыня Ялінская, якую ўсе прывыклі ўспрымаць як эстрадную спявачку, збіраецца раскрыцца яшчэ і як выкладчык у сваёй школе. А вось галоўным стылістам там будзе працаваць Андрэй Бабкін, які ў мінулым годзе заняў 3-е месца на візажу на конкурсе ў Парыжы.




Акрамя школы арт-клуб «Ліка» ўжо мае распрацаваную праграму дзеяннняў у 1998 годзе. Такім чынам, страсці вакол ідэі, якая спадабалася яшчэ некаму, сціхлі. «Я і так зарабіла сабе рэпутацыю скандалісткі па гэтай прычыне», — сказала Ліка. І вырашыла, што жыццё пакажа, якая «Школа прыгажосці» акажацца больш жыццяздольнай.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## У «Народнай рэспубліцы «Мроя» шляхам дэмакратычных выбараў з'явіўся кароль

Усіх прыхільнікаў «Народнай рэспублікі «Мроя» можна павіншаваць. Гурт «Н.Р.М» упершыню прызнаны лепшым гуртом года на «Рок-каранацыі-97». «Н.Р.М». сапраўды шмат дзе «засвяціўся» і набраў ачкі на свою карысць. Хаця пры абвяшчэнні намінантаў вядучыя прадставілі яшчэ і гурт «Нейра Дзюбель».

Але, канешне, з пункту гледжання «значага укладу ў развіццё беларускага рока» выглядае цалкам заслужанай каранацыя «Мроі» і Лявона Вольскага. Ды і 1997-мы для гурта быў удалы, за адзін «Народны альбом», дзе «Н.Р.М.», бадай што, галоўны выканаўца, ім можна даць сто ачкоў наперад. Альбом, праўда, выйшаў напрыканцы года і пакуль што вядомы вузкаму колу аматараў беларускай музыкі. Затое тыя некалькі песень, што прагучалі падчас канцэрта ў зале кінатэатра «Масква», публіка прыняла і сэрцам і розумам. Таму ёсць надзея, што альбом у самым хуткім часе апраўдае сваю назву. Менавіта «Народны альбом», які складаецца з 27 песень на тэмы жыцця Беларусі да 1939 года, быў прызнаны лепшым на «Рок-каранацыі-97». Да таго ж яго аўтар Міхал Анемпардыстаў атрымаў шмат прызоў за лепшыя тэксты. Таксама зразумела — беларускі рок у сённяшніх жыццёвых рэаліях выконвае яшчэ і асветную місію, вельмі адказную. Так складваецца...

З трыма намінацыямі неяк разабраліся. А ўвогуле іх сёлета было 10 — супраць сямі ў мінулым годзе. Можа гэта ў нейкай ступені сведчыць пра пашырэнне рокавага ладу жыцця на Беларусі. А колькі спецыяльных прызоў ад спонсараў і арганізатараў было зацверджана! Канешне, дзеля таго, каб як мага больш гуртоў выступілі ў выніковым канцэрце года, калі не як намінанты, то як госці. Можа таму сам канцэрт атрымаўся даволі зацягнутым, у нейкай ступені нават занудным, пра што красамоўна



Побач з «Н. Р. М.» Аляксандр Кулінковіч («Нейра Дзюбель») — «ценявы кароль», альбо будучы?

сведчыла рэакцыя публікі.

Дарэчы, для публікі, якая сабралася ў зале, сапраўдным «адкрыццём» стала выступленне гурта «Voo Doo» з Гомеля. Хаця намінацыя «Адкрыццё года» ўсё ж такі больш адказная. На яе маглі б прэтэндаваць выканаўцы, якія ў сваёй дзейнасці нечакана праявіліся, «выбухнулі», нарабілі шораху ці проста прыемна ажывілі музычнае жыццё краіны. Тут магла быць і «Троіца», «Hasta La Filsta» і «Крыві». Але праект студыі «Палац» па традыцыі заняў сваё пачэснае месца ў намінацыі «Традыцыі і сучаснасць». Здаецца, гэта ўжо па жыцці... Тое, што на студыі «Палац» ствараюць не «рок», усе разумеюць, але штогод запрашаюць музыкантаў на канцэрты «Рок-каранацыі», бо зусім ігнараваць іх існаванне немагчыма. Вось толькі ў мінулым арганізатары не вельмі прыслухоўваліся да таго, хто там іграе рок, і пры гэтым раздавалі даволі пачэсныя званні. Зараз адумаліся. Можа таму і «пракінулі» Вераніку Кругловай з яе фольк-мадэрнам, якая яўна мела ўсе даныя, каб стаць «Рок-князёўнай»: сцэнічны вопыт, добры вакал, рок-н-рольны выгляд ды сілу жаноцкай абаяльнасці. Крысціна Мендзелеева (Hasta La Filsta), якую і прызналі князёўнай таксама выглядала нядрэнна. Але да такога звання трэба дарасці. А ў маладзенькай Крысціны галоўныя песні, здаецца, яшчэ наперадзе.

Зараз пра тое, якія песні мы слухалі і любілі летась. Увогуле, амаль немагчыма вызначыць, якая мелодыя найчасцей круцілася ў галаве беларускіх меламанаў. Хтосьці ўзгадваў старыя песні пра галоўнае — наша, беларускае, з альбомаў мінулых гадоў. Хтосьці зацягваў «Одзірыдзідзіна», хтосьці фанацеў ад «Нейра Дзюбеля», што ні кажыце, адзін раз пачуеш іх — і ўжо ніколі не забудзеш. Але з чароўнага канверціка, якім арганізатары трошкі прытамілі за ўсю цырымонію, з'явілася паперка, дзе выразна вызначаны дзве (чаму не тры?) лепшыя песні: «Я знаю любоў» (гурт «Новы Іерусалім») і «Танец» («Пані Хіда»).

«Пані Хідзе» пашчасціла двойчы: іх відэакліп «Слёзы на Соснах» быў названы лепшым у новай намінацыі. З новымі намінацыямі у арганізатараў праблем няма. Напрыклад — «Падзея года» — альбом «Песняроў». Яшчэ «Надзея года» (раней адзначаўся дэбют) — іх ізноў-такі аказалася дзве: «Thank You lesys» і «Хэпі Фэйс».

Добра, што арганізатары (фірмы «Каўчаг» і «Клас-клуб») адмовіліся ад стварэння шоу, як гэта было ў мінулым годзе, і вырашылі зрабіць канцэрт, няхай у меншай зале, але з добрым гукам. Вось толькі б яшчэ вядзенне гэтага канцэрта было ў тэмпе, які адлавядае музыцы, без лішніх слоў, мітусні і самавыяўлення вядучых.

І яшчэ адна маленькая дэталь — сёлета «Рок-каранацыя» вялася на двух мовах адначасова — беларускай і рускай. Ёсць прапанова — на наступны год абавязкова дадаць і англамоўнага вядучага. Бо нашы рокенрольшчыкі любяць спяваць на англійскай мове, гэтак жа як і на першых дзвюх. Тады ўжо дакладна ўсе будуць разумець усё, што адбываецца на сцэне.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 30 СТУДЗЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| **Мінск (0-17)** | | | | | | | |
| Абсалютбанк | 42500 | 43500 | 23500 | 24000 | 6950 | 7100 | 636-080 |
| Белаграпрамбанк | 42300 | | 23100 | | 6900 | | 285-716 |
| Беларускі біржавы банк* | 42500 | 43500 | 23100 | 24100 | 6800 | 7200 | 685-523 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 31800.00 | | 17386.55 | | 5260.00 | | Курс на 30.01.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0260 | | 3.2936 | | 10000 BLR - 1.3969 | | |

*Каціруецца ўкраінская грыўня

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галоўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| пазабіржавы міжбанкаўскі курс | 42250 | 43300 | 23644 | 23705 | 7142 | 7160 | |



***ЗІМОВЫ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР***

## ЛЮТЫ

### (Першая дэкада)

***У гэтым календары першая лічба азначае дату па новаму стылю, а другая — па старому (юліянскаму летазлічэнню, якім карыстаецца праваслаўная царква): 1/19 — 1 лютага па н. ст., 19 лютага па с. ст.***

***Назвы свят і прысвяткаў, якія бытавалі ці бытуюць сярод праваслаўных беларусаў, выдзелены паўтлустым шрыфтам, а сярод каталікаў-беларусаў — курсівам.***

**1/19. ІГНАТ.** Беларусы-каталікі некалі казалі: «На святога Ігната зіма багата, а Ігнат Грамніцам рад».

***2/20. ГРАМНІЦЫ, СТРЭЧАННЕ*** — дзень сустрэчы зімы з летам у каталікаў і Грамаўніка (язычніцкага бога Перуна). Лічыцца, што ўжо могуць быць грымоты, навальніцы і прайшла палова зімы. Аб гэтым сведчаць прыказкі: «На Грамніцы палавіна зімільцы», «Грамніца — хлебу палавіца, а корму траціна».

На Стрэчанне назіралі за надвор'ем. Існавалі прыметы: якое надвор'е на Грамніцы, такая і вясна; «як на Грамніцы адліга — з ураджаю будзе фіга», і інш.

У прыродзе адчуваецца пацяпленне, са страх бягуць першыя капяжы. «На Грамніцы певень нап'ецца, на Дабравешчанне (Звеставанне) — вол».

У Свіслацкім раёне Гродзенскай вобласці, дзе жывуць праваслаўныя і каталікі, было пачута, што «паміж польскімі і нашымі Грамніцамі не трэба снаваць кросны, бо ваўкі будуць снаваць каля будынка».

***5/23. АГАТА.*** У гэты дзень свяцілі соль і хлеб. Паводле народных вераванняў, хлеб мог бараніць ад пажару, перуна і раптоўных хвароб, таму вядома: «Хлеб святой Агаты не пусціць бяды да хаты» (Беластоцкае ваяводства), а таксама: «Соль святой Агаты бароніць ад агню хаты».

***6/24. АКСІННЯ ПАЎЗІМІЦА* (Ксеня, Аксені).** Называлі Аксінняй Паўзіміцай, бо дзяліла зіму папалам. У Заходнім Палессі гавораць: «Еслі на Оксэні мэтэ, то весь корм падмэтэ - зыма шчэ будэ». Дзень прысвечаны прападобнай Ксеніі (V ст.). Пазней ў царкоўны каляндар была ўключана і блажэнная Ксенія Пецярбургская.

**ДАРОТА.** «Па Дароце высахнуць хусты на плоце».

***7/25 ІВАН ЗЛАТАВУС.*** У народным календары гэты дзень замацаваны за Іванам Златавусам, а не за Іаанам Залатавустам, як у царкоўным. Згодна з легендай, Касьян падпаліў Івану Хрысціцелю вусы. Бог пакараў Касьяна тым, што яго прысвятак адзначалі толькі адзін дзень у чатыры гады — 29 лютага па старому стылю. А Івану Бог падараваў залатыя вусы. Івана Залатавуса святкуюць і ў іншыя дні года. У гэты дзень хрысціянскай царквою адзначаецца перанясенне мошчаў (438 г.) свяціцеля Іаана Златавуста, канстанцінопальскага епіскапа, цудоўнага прапаведніка. Толькі на рускую мому перакладзены яго творы ў 12 вялікіх тамах.

***10/28 ЯФРЭМ СІРЫН.*** На Смаленшчыне лічылі, што ў Яфрэмаў дзень дамавік сваволіць на дварах, таму яго частавалі, пакідаючы страву і гаварылі: «Гаспадар-бацюшка, беражы жывёлу», «Гаспадарушка, бацюшка, хлеб-соль прымі, жывёлу вадзі».

Акрамя прападобнага Яфрэма Сірына, які жыў у 300-х гадах, царкоўны каляндар у гэты дзень адзначае яшчэ двух Яфрэмаў і Ісаака Сірына.

# ПЛАНЕТА ЖЫВЁЛ

## 40 МІЛЬЁНАЎ ЗА ЛАСІХУ

**Надзвычайнае здарэнне адбылося ў Карэліцкім раёне. Жыхар Мінска, які прыехаў да сваякоў у вёску Беражна, з незарэгістраванай стрэльбы забіў у лесе цельную ласіху вагой амаль 170 кілаграмаў. Браканьер і сваяк, які яму дапамагаў, затрыманы на месцы злачынства ў той час, калі разбіралі тушу.**

У парадку кампенсацыі ўрону і з улікам таго, што ва ўлонні ласіхі былі два цяляці, прыродаахоўныя органы прад'явілі да вінаватых іск на суму сорак мільёнаў рублёў. Заведзена крымінальная справа.

«Да карэліцкіх браканьераў прымянена зацверджанае Саветам Міністраў у снежні мінулага года палажэнне аб паляванні і вядзенні паляўнічай гаспадаркі на тэрыторыі рэспублікі, — паведаміў начальнік аддзела па ахове жывёльнага свету, рыбных запасаў і запаведнікаў Гродзенскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Мікалай Друцько. — Згодна з гэтым дакументам, за незаконны адстрэл ліся прыродаахоўныя органы маюць права спаганяць у парадку кампенсацыі ўрону да 80 мінімальных зарплат. Акрамя таго, палавіна гэтай сумы бярэцца за кожнае знішчанае разам з самкай ласяня».

Павысіліся сумы штрафаў таксама за незаконны адстрэл іншых жывёл. Цяпер браканьеры павінны плаціць за аленя — 80 «мінімалак», бабра і выдру — 70, лебедзя і глушца — 35, а за дзіка і казулю — 30 мінімальных зарплат. Прадугледжаны штрафы за разбурэнне жытла баброў, барсукоў, андатраў і іншых жывёлін, за разбурэнне птушыных гнёздаў, адзначыў Мікалай Друцько. Паводле яго слоў, толькі на тэрыторыі Гродзенскай вобласці ў мінулым годзе выяўлена 416 выпадкаў парушэння правілаў палявання, што ў 1,6 раза больш, чым у 1996 годзе. У браканьераў канфіскаваны 53 стрэльбы, усе яны кампенсавалі нанесены прыродзе матэрыяльны ўрон. З пачатку гэтага года на парушальнікаў правілаў палявання ўжо складзена 58 пратаколаў, у браканьераў канфіскавана 16 стрэльбаў.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ, БЕЛТА.**

**Увосень 1727 года вельмі моцны землятрус ускалыхнуў закаспійскія краіны. Найпрыгажэйшыя азіяцкія гарады ў лічаныя секунды ператварыліся ў пыльныя руіны, пад якімі загінулі дзесяткі тысяч людзей.**

**Праз некалькі гадзін пасля трагедыі перад сведкамі гэтага няшчасця, якія засталіся жывымі, паўстала агідная карціна: сотні, тысячы галахвостых стварэнняў, варушачыся паміж заваламі, аб'ядноўваліся ў зграі і пакідалі галодную, негасцінную, стаўшую непрыгоднай для жыцця няўтульную зямлю. Пацукі ішлі на Захад...**

## ІМЯ ІМ — ЛЕГІЁН

У ТЫЯ ЧАСЫ пацучыныя зграі параўноўвалі з ордамі Чынгісхана, Тамерлана і Атылы — правадырамі бязлітасных варварскіх ордаў. Як і пасля іх, пасля нашэсця пацучыных фаланг зямля ўяўляла сабой голую, выедзеную да апошняй зялёнай былінкі пустыню. Армія шэрых пацукоў (а гаворка ідзе менавіта пра іх), якую вёў якісьці да гэтай пары не высветлены інстынкт, прыпынілася толькі ля сцен Астрахані. Ні Волга, ні вялікі горад пацукоў спыніць не змаглі. Так гэтая непрыемная істота з'явілася ў Еўропе, хутка асвоіўшы ўсе прыдатныя для яе біялагічныя нішы, прычым аддаючы перавагу чалавечаму жыллю. Літаральна праз 5 гадоў пацукі дайшлі да Пірэнейскага паўвострава.

У Парыжы, напрыклад, шэрых пацукоў распладзілася столькі, што на адной з гарадскіх боень на працягу чатырох тыдняў было забіта 16 тысяч гэтых грызуноў.

Дарэчы, вайна пацукам на гэтай адной асобна ўзятай бойні была аб'яўлена толькі пасля таго, як яны за адну ноч абгрызлі да касцей 35 тушаў коней. Вось што пра пацука пісаў Томас Кэмба: «Сярэдні прадстаўнік гэтага віду грызуноў здольны пралезці ў дзірку памерам з сярэднюю манету, падняцца па цаглянай сцяне, як па лесвіцы, праплысці каля кіламетра і трымацца на вадзе трое сутак. Сваімі вострымі, як долата, зубамі, якія развіваюць неверагодны ціск у 1688 кілаграмаў на 1 см$^2$, пацук лёгка прагрызае свінцовыя трубы і шлакабетонныя блокі. Калі яго спусціць ва унітаз, ён выжыве і можа вярнуцца тым жа шляхам. Калі пацук ўпадзе з пятага паверха, то застанецца цэлым і здаровым. Гэтыя грызуны неверагодна хутка размнажаюцца! За год у адной пары можа быць да 15 тысяч нашчадкаў!..»

Самым распаўсюджаным сродкам іх вынішчэння ў нашы дні сталі розныя атруты, замешаныя на прывабных для пацукоў прынадах. Але, на жаль, ва ўмовах гарадской кватэры гэты метад наўрад ці можна прымяніць. Справа ў тым, што пацукі схільныя сустракаць свой апошні час у месцах вельмі зацішных і, такім чынам, недаступных для чалавека, насычаючы затым паветра пакоя непрыемным пахам.

Неблагі спосаб вынішчэння пацукоў — механічны, з дапамогай пастак. Але тут трэба ўлічваць, як піша Томас Кэмбі, «...амаль шызафрэнічную падазронасць пацука да ўсяго новага і незвычайнага...».

Таму для паспяховай лоўлі пацукоў іх неабходна амаль тыдзень прывучаць да выгляду пастак і харчовых прынад, якія будуць у іх прымяняцца. Трэба адзначыць, што шэры пацук, у адрозненне ад пераважнай большасці грызуноў, аддае перавагу бялковай раслліннай ежы, а самы любімы пацучыны ласунак — асмаленая скурка свінога сала. Перад прымяненнем пастак неабходна, для пачатку, знішчыць пах чалавечых рук. Для гэтага пасткі трэба працерці свежай травой, пракіпяціць у адвары сена ці ў піве.

Адзін з самых старадаўніх і, бадай, самы біялагічна вытрыманы спосаб барацьбы з пацукамі — выкарыстанне іх спрадвечных ворагаў — кошак. Сама наяўнасць кошкі ў доме ўжо прыкметна дысцыплінуе грызуноў, не дазваляючы ім канчаткова стаць нахабнымі. Трэніруюць для лоўлі пацукоў і сабак, выкарыстоўваючы для гэтых мэтаў невялікія, спрытныя пароды: фокстэр'ераў і бультэр'ераў.

Але не толькі шэры пацук жыве ў нашых дамах, яе блізкі сваяк — чорны пацук. Асноўныя адрозненні чорнага пацука ад шэрага — вялікія вушы, больш доўгі хвост, адносна невялікія памеры, цёмна-шэры ці чорна-буры колер поўсці і жыллёвыя перавагі: у адрозненне ад свайго шэрага сваяка, які жыве ў асноўным у падвалах, чорны пацук аддае перавагу гарышчу і даху.

Карабельныя пацукі (як правіла чорныя), тыя, якія «першымі бягуць з тонучага карабля», і з'явіліся, разам з чалавекам, самымі першымі каланістамі невядомых зямель: Афрыкі, Паўднёвай і Паўночнай Амерыкі, Аўстраліі.

А цяпер невялікая практычная парада, якая датычыцца абодвух відаў пацукоў. У новабудоўлі пацукі засяляюцца толькі праз адчыненыя дзверы, часцей за ўсё ў цёмны час сутак, і праз вентыляцыйныя адтуліны першых і падвальных паверхаў. Таму зацягванне вентыляцыйных адтулін драцянай сеткай і аснашчэнне ўстройствам аўтаматычнага закрывання дзвярэй пад'езда робяць дом недаступным для пацукоў на доўгія гады.

**Арцём ХАНІН.**

## ПАЦУКІ Ў ПЫТАННЯХ І АДКАЗАХ

**1. Кажуць, што сланы баяцца мышэй і пацукоў, ці праўда гэта?**

— Не, няпраўда, сланы мышэй і пацукоў не баяцца, хоць і вельмі дарэмна. Тры сланы вядомага дрэсіроўшчыка і зоагандляра Карла Гагенбека за адну ноч сталі ахвярамі пацукоў. Тыя аб'елі сланам падэшвы ног.

**2. Ці праўда, што ў падземцы Маскоўскага метро завяліся пацукі-монстры, памерам ледзь не з аўчарку, для знішчэння якіх прыцягваюць спецбрыгады, узброеныя аўтаматамі.**

— Яўнае глупства. Прыводжу памеры пацукоў: шэры — да 42 см, уключаючы 18-сантыметровы хвост. Чорны — каля 30 см, хвост займае палову даўжыні. Той жа, хто распаўсюджвае жудасныя звесткі аб генах, мутацыях, радыеактыўнасці і як вынік — вялізных пацуках, не ведае ні пра адзін з пералічаных тэрмінаў.

Што ж датычыцца жыцця пацукоў у метро, то там яны сапраўды водзяцца, і ў даволі значнай колькасці. Але не турбуйцеся, паважаныя чытачы, вагонамі яны не карыстаюцца, а перамяшчаюцца па тунелях пешшу.

Калі ж гаварыць пра стральбу з аўтаматаў у тунелях метрапалітэна, то гэта сцвярджэнне не вытрымлівае нават намёку на крытыку. Адна толькі куля, якая трапіць у хітраспляценні кабеляў, здольная вывесці са строю значную частку як падземных, так і наземных камунікацый.

**3. Ці нападаюць пацукі на людзей?**

— Так. Вось факты: «Гэта здарылася позна вечарам у памяшканні школы італьянскага горада Бара. Трохгадовая Сімона Джуско толькі-толькі задрамала, як раптам была разбуджана нясцерпным болем. Маці, узнятая з пасцелі пранізлівым крыкам дачкі, уключыла святло і замерла, ашаломленая: у Сімоны адсутнічала палова правага вуха, а вялікі памыйны пацук, які адгрыз яе, уцякаў прэч з пакоя...» «У адзін з дзён лютага жыхар Неапаля Рэната Мільёрэ быў занепакоены працяглай адсутнасцю Віторыі Чыпула — сваёй 77-гадовай знаёмай, якая жыла адна... і вырашыў наведаць яе. Там ён стаў сведкам жудаснай сцэны: жанчына ляжала на ложку мёртвая, уся абгрызеная шэрымі грызунамі» (Анджэла Марыя Перына, «Panarama» Milan, 1979 г.).

**4. Кажуць, што пацукі нічога, акрамя шкоды, не прыносяць і таму могуць быць прыгавораны да павальнага вынішчэння.**

— Памылковая думка. Вялікая колькасць доследаў па медыцыне, біялогіі, генетыцы і іншых навуках праводзяцца на лабараторных жывёлах, большасць з якіх — пацукі. Чалавецтва абавязана гэтым «агідным істотам» пазбаўленнем ад шматлікіх хвароб. Акрамя таго, любы біялагічны від — ад чарвяка да кіта — мае права на жыццё толькі таму, што ён ужо існуе. Пацукі, выходзіць, таксама.



**У РУЖАНСКАЙ ПУШЧЫ**

Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.



## СМЕХАТЭРАПІЯ



Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

## Анекдоты ад «зоркі»

**Ірына АЛЕГРАВА:**

Сустракаюцца два бізнесмены.

— Пазыч мне тысячу долараў! — просіць адзін. — Тэрмінова патрэбна!

— У мяне з сабой няма! — адказвае другі.

— А дома?

— Дзякуй, дома ўсе здаровыя.

**Юрый АНТОНАЎ:**

Па шашы едзе «новы рускі» на «Мерседэсе». Раптам яго абганяе «Пантыяк». З яго акна высоўваецца грузін і крычыць:

— «Пантыяк» ведаеш? — і праносіцца міма.

Злы «новы рускі» націскае на газ і імчыцца за ім. Ля бліжэйшага павароту ён бачыць «Пантыяк», які ляжыць у кювеце ўверх коламі. Гаспадар машыны выпаўзае з-пад абломкаў і кажа:

— Я ж цябе пытаў: «Пантыяк» ведаеш як спыніць?

**Міхаіл ШУФУЦІНСКІ:**

У турэмную камеру вяртаецца з допыту зэк і кажа сябру:

— З новым годам, Талян!

— Ты чаго? Сакавік на вуліцы!

— Ну і што? Сярога раскалоўся, зараз нам па году дабавяць!

## Работа над памылкамі

- Куркулятар
- Брагаразводны працэс
- Хітраметэацэнтр
- Паведамленне АТАСС

## Думкі ўслых

- Не кожны, хто купаецца ў раскошы, можа адмыцца.
- Не кожны, хто ідзе на павадку, ужо сабака.

## Анекдоты

Перад аперацыяй на апендыцыт хворы пытае ўрача:

— Доктар, я вас прашу, скажыце мне праўду: пасля аперацыі я змагу іграць на скрыпцы?

— Напэўна, зможаце!

— Ой, дзякуй, доктар, а то раней я не ўмеў.

☺

Па вуліцы ідзе падвыпіўшы мужык, высока падняўшы над галавой растапыраную пяцярню. Заходзіць у піўную, бярэ куфаль піва, расплачваецца, дастае з кішэні воблу, чысціць яе — і ўсё гэта адной рукой.

— Ну ты, мужык, даеш! — здзіўляецца яго сусед па століку. — Хто ж рыбу чысціць адной рукой?

— Не збівай, — адказвае яму мужык. — Я з жонкі мерку зняў, іду ёй бюстгальтар купляць.

☺

Два пажарныя размаўляюць:

— Ведаеш, чым адрозніваецца скрыпка ад кантрабаса?

— Не. А чым?

— Кантрабас гарыць даўжэй.

*Рубрыку вядуць Алесь СІВЫ і Міхась ТАЛОЧКА.*

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.58 | 16.47 | 8.49 |
| Віцебск – | 7.53 | 16.33 | 8.40 |
| Магілёў – | 7.47 | 16.37 | 8.50 |
| Гомель – | 7.39 | 16.39 | 9.00 |
| Гродна – | 8.12 | 17.04 | 8.52 |
| Брэст – | 8.07 | 17.10 | 9.03 |

### МЕСЯЦ

**Маладзік 28 студзеня**

**З 10.47 — 4-ыя месяцавыя суткі.**

**З 23.21 Месяц — у сузор'і Авена, да гэтага — у Рыбах.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Афанасія, Кірыла, Марыі, Сергія К. Яна, Людвікі**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам снег, мяцеліца. Тэмпература паветра ў Гродне і Віцебску — 10—12, Мінску — 9—11, Брэсце — 8—10, Гомелі і Магілёве — 7—9 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак надвор'е будзе марозным: 1 лютага ўначы — у паўночна-ўсходняй палавіне, 2-га — па паўночнаму захаду рэспублікі невялікі снег. Тэмпература 1-га ўначы — 12—17, месцамі 20—25, удзень — 9—14; 2-га ўначы — 10—15, месцамі да 20.



## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

## КРЫЖАВАНКА «К»

Па гарызанталях: 5. Вельмі распаўсюджаны ў зямной кары мінерал. 6. Вялікі капец бульбы, буракоў і г. д. 9. Мера масы каштоўных камянёў. 11. Чатырохколы конны экіпаж на рысорах. 12. Напой з садавіны, ягад, згатаваны на вадзе з цукрам. 15. Назва пачатка кукурузы ў некаторых мясцовасцях Беларусі. 17. Афіцэрскае званне. 18. Сукупнасць прадметаў, з'яў, аб'яднаных на аснове агульных прымет. 19. Вадкі араматычны вуглевадарод, аналаг бензолу. 20. Кароткае тоўстае бервяно. 24. Ручная сельскагаспадарчая прылада. 25. Мінерал чырвонага колеру розных адценняў. 26. Крык некаторых дзікіх птушак. 29. Выдатны агульнапрызнаны пісьменнік, дзеяч мастацтва, навукі. 30. Дзяржаўная граніца, мяжа. 31. Задняя частка шыі ў жывёлы, чалавека. 33. Рэдкая сятчастая тканіна, якая служыць асновай пры вышыванні крыжыкам. 34. Ільдзіна на рацэ, возеры.

Па вертыкалях: 1. Самая высокая па тону струна скрыпкі. 3. Тэмп руху пры хадзьбе. 3. Гоначны мікралітражны аўтамабіль. 4. Кааператыўная арганізацыя працы сялян. 7. Рэзкі пералом, пераходны стан. 8. Службовая асоба, якая прымае і выдае грошы. 10. Суквецце большасці злакаў. 13. Разбурэнне металаў пад уздзеяннем агрэсіўнага асяроддзя. 14. Прыбярэжнае суднаходства паміж портамі адной краіны. 16. Ахоўны галаўны ўбор. 18. Выпнутая храстковая частка гартані. 21. Горад у Чэлябінскай вобласці Расіі, цэнтр мастацкага чыгуннага ліцця. 22. Унутраная гумавая абалонка аўтамабільнай шыны. 23. Рэзкае перамяшчэнне з аднаго месца ў другое. 27. Паселішча ў Сярэдняй Азіі. 28. Таварыш па прафесіі, вучобе, занятках. 31. Напой з зярнят трапічнага дрэва. 32. Прэснаводная рыба, акультураная разнавіднасць сазана.

**Склаў Іван ХАБЯН.**
Лідскі раён.

## ЧАЙНВОРД «С»

1. Мэта, разумная падстава. 2. Трыганаметрычная функцыя. 3. Беларускі кампазітар, аўтар аперэты «Несцерка». 4. Грэчаскі востраў у Эгейскім моры. 5. Бытавое абслугоўванне насельніцтва. 6. Вялікі іспанскі пісьменнік і драматург эпохі Адраджэння. 7. Частка слова. 8. Час нарыхтоўкі траў. 9. Літоўскі жывапісец і мастацтвазнаўца. 10. У Заходняй Беларусі 20-я—30-я гг. — сельскі стараста. 11. Аповесць М. Чарота. 12. Галоўнае божаства ў элiністычным Егіпце. 13. Народны пісьменнік Літвы. 14. Раённы цэнтр у Латвіі. 15. Паказ кінафільма па раскладу. 16. Старажытнаегіпецкая манументальная скульптура — фігура ляжачага льва з галавой чалавека. 17. Фінскі кампазітар, заснавальнік нацыянальнай музычнай школы. 18. Хуткае злітнае пісьмо ў рукапісах. 19. Самая яркая зорка ў сузор'і Вялікага Пса. 20. Лямпа напальвання ў рэфлектары, якая выкарыстоўваецца ў фізіятэрапіі. 21. Буйная афрыканская птушка. 22. Вершаваная страфа з чатырох радкоў. 23. Выканаўца ролі рабыні Ізаўры ў папулярным бразільскім тэлесерыяле. 24. Раздзел граматыкі. 25. Сумненне, недавер'е. 26. Латышскі акцёр, народны артыст СССР. 27. Род раслін сямейства мальвавых. 28. Штабель. 29. Назапашаны корм для жывёлы.



**Склаў Уладзімір НЕСЦЯРОВІЧ.**
*г. Мінск.*

## КРЫПТАГРАМА



Прачытайце зашыфраваную ў крыптаграме слушную народную думку. Для гэтага спачатку трэба разгадаць ключавыя словы, а потым адпаведныя літары гэтых слоў упісаць замест лікаў у клеткі малюнка.

а) 1-2-3-4 — прыток Дуная;

б) 5-4-6-7-8 — месца ў шахце, дзе непасрэдна здабываюцца карысныя выкапні;

в) 9-10-11-12-4 — ірландскі нацыянальны танец;

г) 13-4-14-15-2-16 — мінерал ярка-зялёнага колеру.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка (24 студзеня). Па гарызанталях:** 3. Ліверка. 9. Страва. 10. Турман. 11. Вучэбка. 12. Руціна. 13. Рызыка. 14. Шпалера. 17. Рагоз. 20. Асада. 23. Бельведэр. 25. Манро. 26. Сорам. 27. Тураў. 28. Нерон. 29. Набат. 30. Інкогніта. 31. Карак. 34. Латка. 37. Андарак. 41. Баласт. 42. Ручнік. 43. Ладунка. 44. Задума. 45. Мандат. 46. Спагада. **Па вертыкалях:** 1. Атрута. 2. Даміно. 3. Лаваш. 4. Вочка. 5. Рабле. 6. Атара. 7. Крызіс. 8. Каскад. 15. Палітыкан. 16. Радаўніца. 17. Рамонак. 18. Ганарар. 19. Зборнік. 20. Арсенал. 21. Акрабат. 22. Абмотка. 24. Вараг. 32. Абабак. 33. Абажур. 35. Айчына. 36. Клімат. 37. Атлас. 38. Дудка. 39. Рэнта. 40. Крама.

**Крыптаграма (24 студзеня).** Ключавыя словы ў ёй: невад, рунь, заяц, жніво, Масты. Прымаўка чытаецца такая: «З рамяством дружыць — у жыцці не тужыць».

■

Аператыўна даслалі свае адказы на заданні «Суботніх вечароў», апярэдзіўшы іншых чытачоў, В. Шундрык з г. Дзятлава, І. Чыж, Н. Серакова з Сенненскага раёна, Н. Мяшко з г. Глыбокае, А. Марковіч са Слуцкага раёна, В. Лявончык з г. Мінска, Н. і М. Шатайла з Калінкавіцкага раёна.

## ГАЛАВАЛОМКА



На малюнку ў левай частцы трэба галосныя літары ўпісаць у пустыя клетачкі, каб атрымаць назвы некалькіх беларускіх рэк і азёр, а ў правай частцы — у пустыя клетачкі трэба ўпісаць зычныя літары, каб атрымаць назвы некалькіх рыб, якія жывуць у гэтых рэках і азёрах.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**
*Клецкі раён.*

## ВІНШАВАННІ

*Дарагая мамачка, бабуля, жонка і сястра* ***Галіна Дзмітрыеўна САПЯЖЫНСКАЯ****! Шчыра віншуем з юбілеем, жадаем здароўя, доўгіх шчаслівых гадоў жыцця. Мы ўсе цябе вельмі любім.*

**Родныя,** в. Залессе Валожынскага раёна.

***Дзіма БАРОДЗІЧ і Аксана ЛІНЬКО*** *з в. Дараганава Асіповіцкага раёна! Сардэчна віншуем вас з днём шлюбу. Парада вам ды каханне!*

**Сем'і Някрэпкіных, Дзяньгіных, Яфрэменкаў, Каваленкаў.**

*Сардэчна віншуем з 60-годдзем любімага мужа і бацьку* ***Пятра Пятровіча СЕМАШКЕВІЧА****. Здароўя, шчасця і дабрабыту табе.*

**Жонка, дзеці**, г. Маладзечна.

## БЕЛАРУСКІ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ КАЛЯНДАР

**31 студзеня**

175 гадоў з дня нараджэння (1823 — 1889) Я. П. Быкоўскага, польскага пісьменніка, збіральніка і даследчыка беларускіх народных песень і абрадаў.

75 гадоў з дня нараджэння (1923) І. К. Лакштанавай, актрысы, заслужанай артысткі Беларусі.

70 гадоў з дня нараджэння (1928) Г. Ф. Юрчанкі, пісьменніка-сатырыка, мовазнаўца, даследчыка і выдаўца гаворак Мсціслаўшчыны.

## БЛІЗНЯТАМ ЗНОЎ ПАШАНЦУЕ, А ВАДАЛЕЙ НЕ ПАЛАДЗІЦЬ З КАЛЕГАМІ...

### *Усходні гараскоп на наступны тыдзень*

КАЗЯРОГ атрымае дывідэнды з дапамогай новых інвестыцый у бізнес, але спачатку ўсё ж трэба звярнуцца за кансультацыяй да спецыялістаў-фінансістаў. На працягу тыдня адбудзецца нешта такое, што акажа на вас моцнае эмацыянальнае ўздзеянне. Планеты раяць не вельмі даваць волю пачуццям, а акунуцца ў работу ці адпачыць удалечыні ад офіса і дома.

ВАДАЛЕЙ, на жаль, паспрачаецца з калегамі па працы. А тыя пакрыўдзяцца на яго і адмовяць у сваёй падтрымцы. Не зусім прыемныя хваляванні чакаюць прафсаюзных дзеячаў, палітыкаў, юрыстаў і ўрачоў. У лепшым становішчы апынуцца бізнесмены, якім лёс прынясе важкі даход. Адносіны з замежнымі дзелавымі партнёрамі будуць прадуктыўныя. Дзяржслужачых чакае перавод на вышэйстаячую пасаду, але толькі пасля адпаведнага экзамена.

РЫБЫ ўплываюць у перыяд фінансавага працвітання. Поспех усміхнецца прадстаўнікам творчых прафесій. Ад жывапісцаў і скульптараў не адстануць і камерсанты, якія атрымаюць вялікую выгаду ад крыху спекуляцыйных здзелак. Дзяржслужачыя даведаюцца аб павышэнні ў пасадзе і ў акладзе, што ўмацуе іх мару аб куплі дома ці аўтамашыны. Праблемы падпільноўваюць сумесны з партнёрамі бізнес, які на працягу тыдня будзе прыносіць адны страты.

АВЕНЫ не павінны ні з кім дзяліцца сваімі планамі на будучыню. Побач з вамі затаіўся небяспечны нядобразычлівец, які спіць і бачыць крушэнне вашых праектаў і надзей. Далейшых поспехаў у бізнесе вы можаце дасягнуць, толькі абапіраючыся на ўласныя фінансы. Дзейнічайце незалежна ад іншых. А калі паступіць прапанова аб дапамозе, ветліва скажыце «не». Усяго вы можаце дабіцца самі — так гавораць зоркі.

ЦЯЛЬЦЫ заспяшаюцца з выкананнем новых планаў. Але лепш спачатку атрымаць важную інфармацыю адносна перспектыў у бізнесе, а ўжо потым распачынаць задуманае. Камерсантаў чакае падпісанне важнага кантракта. Тактоўнасць і дыпламатычнасць не перашкодзяць у адносінах з падначаленымі. Упрыгажэннем тыдня стануць вашы сардэчныя адносіны з роднымі і любімымі, дзеля сумеснага свята з якімі вы не пашкадуеце грошай.

БЛІЗНЯТЫ зноў стануць улюбёнцамі лёсу, які не адмовіць ім у чарговым падарунку — фінансавым. Прадпрымальнікі павысяць свой статус у бізнесе. Дзяржслужачым даверыць выкананне важнага задання з абяцаннем адпаведнай узнагароды. Палітыкам прапануюць дзяржаўную пасаду. Невялікія рознагалоссі ў сям'і выклікаюць дзеці, учынкі якіх не заўсёды будуць радаваць татаў і мам.

РАКА чакае складаная работа, якая запатрабуе сіл і часу. Затое пасля заканчэння ў вас з'явіцца выдатная магчымасць атрымаць узнагароду, і не толькі маральную. Архітэктарам і дызайнерам, якія працуюць дома, практыкуючым урачам і народным лекарам неабходна патроіць асцярожнасць. Нехта побач з імі рыхтуе каверзу, імкнучыся перашкодзіць паспяховай працы і ўтульнаму быту. Служачых дзяржпрадпрыемстваў чакае непрыемная размова з начальствам з-за правалаў у рабоце.

ІЛЬВЫ нечакана атрымаюць значны прыбытак. Да вас вернуцца даўно пазычаныя грошы, працэнты на ўклады ці раптоўна з'явіцца вялізны ганарар. Не выключана далёкая паездка па дзелавых патрэбах. Планеты не супраць вырашэння вамі маёмасных праблем. Аднак тут магчымы рознагалоссі са сваякамі, у якіх будзе сваё меркаванне адносна таго, як, уласна, іх вырашаць. Вучоба за мяжой дзяцей запатрабуе ад вас расходаў, і немалых.

ДЗЕВА будзе паспяхова працаваць і атрымліваць дапамогу ад вопытных калег. У іх вы зможаце многаму навучыцца, што потым будзе карысным у вашым бізнесе. Некаторых пацягне на Усход, дзе чакае выгадны кантракт і куча грошай. Не такая значная, але ўсё ж прыбаўка ў зарплаце чакае дзяржслужачых. У зборшчыкаў падаткаў чакаюцца цяжкія часы, у што лёгка верыцца. А вось з'яўленне праблем у пісьменнікаў, журналістаў і педагогаў планеты тлумачаць толькі фінансавымі абставінамі.

ШАЛІ ўстановяць кантакт з тымі, хто дапаможа кар'еры. Асоба, шчыра зацікаўленая ў вашых поспехах, дапаможа, падтрымае, пазычыць грошы. Гэты тыдзень пакажа, наколькі вы прафесіянал у сваёй справе. Не шкадуйце сіл і часу для работы, не марудзьце, а энергічна дзейнічайце, і тады вам усміхнецца ўдача. Нечаканая сустрэча абяцае вам аднаўленне адносінаў з каханым чалавекам, які даўно не радаваў вас сваёй увагай.

СКАРПІЁНЫ не павінны прымаць ніякіх новых дзелавых прапаноў. Іх рэалізацыя зацягнецца на доўгі тэрмін і сутыкнецца з цяжкасцямі. У руціннай рабоце таксама не пазбегнуць праблем, вырашаць якія лепш за ўсё даверыць падначаленым ці калегам. Не ўсё проста будзе ў вашых адносінах з каханым чалавекам. Не фарсіруйце падзеі, а набярыцеся цярплівасці і паспрабуйце разам знайсці выйсце са складанай сітуацыі. Гэта толькі зблізіць вас, паверце зоркам.

СТРАЛЬЦЫ могуць смела інвесціраваць грошы ў нерухомую маёмасць. Шумны поспех чакае прадстаўнікоў творчых прафесій. Бізнесмены атрымаюць даход ад выканання важнага праекта, але з пачаткам новага вам лепш за ўсё крыху пачакаць. Уладальнікаў прадпрыемстваў чакаюць непрыемныя праблемы, з якімі, дарэчы, ім удасца справіцца. У асабістым жыцці не абыдзецца без стрэсаў з-за ўчынкаў некага са сваякоў.

**Леанід КОТАЎ,**
**кар. ІТАР-ТАСС.**
г. Дэлі.

## Старонка Паўла Глобы

### 1 лютага, нядзеля

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Правядзіце гэты дзень у прыўзнятым настроі. Больш весялосці і радасці! Прытрымлівайцеся закона і справядлівасці ва ўсіх справах. Проціпаказаныя хлусня і хітрасць. Можна распачынаць сёння судовы працэс за справядлівае рашэнне. Добра абменьвацца інфармацыяй, вопытам. Удзяліце час дзецям, зрабіце ім падарунак, больш займайцеся і гуляйце з імі. Карысныя заняткі спортам, умацаванне свайго фізічнага цела. Нельга галіцца і стрыгчыся. Асаблівую ўвагу звярніце на ежу. Проціпаказаны галаданне і ўжыванне любой свежыны. Трэба наесціся, але не пераядаць. Аддайце перавагу малочным прадуктам, мёду і садавіне. Не ешце шмат салодкага.

**АДЗЕННЕ**. Не рэкамендуецца светлае адзенне. Прытрымлівайцеся строгіх колераў, аддайце перавагу цёмным, шэрым тонам.

**ПРЫМЕТЫ**. Калі вы ніяк не можаце прачнуцца, значыцца сумленне ваша чыстае. Знайсці дробны металічны прадмет — да шчасця, удачы, кахання. Выпадкова ўкалоцца нечым, парэзацца ці апарыцца — знак таго, что вас можа пакінуць удача. Калі ўпала сумка ці капялюш — да матэрыяльных страт.

**Сны**. Амаль усе сны ў гэты дзень лічацца пустымі, асабліва тыя, якія сняцца ў сонечнае надвор'е. Рэалізуюцца вельмі хутка, на працягу 1-2 сутак.

**МЕДЫЦЫНА**. Нельга перагружаць галаўны мозг і вочы, лячыць і пратэзаваць зубы. Не рэкамендуецца стрыгчы валасы. Проціпаказаныя аперацыі на твары і галаве. Спрыяльны час для лячэння нырак, мачавога пузыра і падстраўнікавай залозы.

### 2 лютага, панядзелак

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Будзьце пільныя і сачыце за сваімі словамі, не давайце сёння ніякіх абяцанняў і клятваў. Не трэба падпісваць дакументы і даваць пісьмовыя абавязацельствы. Імкніцеся да гармоніі, не забывайце пра любоў і дараванне. Пастарайцеся дараваць крыўды сваім блізкім. Неспрыяльны час для весялосці. Прысвяціце гэты дзень сям'і. Памяніце сваіх продкаў. Карысныя ўспаміны пра ўсё добрае, што ў вас было ў мінулым. Не рэкамендуецца ў гэты дзень гатаваць ежу.

**АДЗЕННЕ**. Імкніцеся не апранаць вялікую колькасць адзення. Аддайце перавагу зялёным тонам, адмоўцеся ад жоўтага, аранжавага і чорнага колераў.

**ПРЫМЕТЫ**. Сачыце за аблокамі, іх форма можа мець для вас вялікае значэнне. Калі ваш сабака заліваецца брэхам — значыцца вас ахоўваюць продкі. Знайсці каштоўны камень ці пярсцёнак — да выканання жадання. Калі камень выпадае з вашага пярсцёнка ці вы губляеце пярсцёнак — знак сурокаў ці разбурэння сям'і. Зламаць зуб, пазногаць — да хваробы.

**СНЫ**. Прарочыя, здзяйсняюцца праз доўгі час. Бачыць памерлых продкаў — знак аховы і дапамогі. Убачыць дрэвы і кветкі — да шчасця, кахання, нечаканых набыткаў.

**МЕДЫЦЫНА**. Захворванне дыхальных шляхоў, у прыватнасці бронхаў, у гэты дзень — вынік забруджвання навакольнага асяроддзя. Проціпаказаныя аперацыі і працэдуры, звязаныя з галавой, тварам, вачамі і вушамі. Нельга выдаляць і пратэзаваць зубы. Добра лячыць ныркі, мачавы пузыр і падстраўнікавую залозу.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zvyazda.belpak.minsk.by. http://www.zvyazda-daily.minsk.by.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком, носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84,118. Індэкс 63850.
Зак. № 527.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12